УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Б 46

Мастак **Іван Семілетаў**

Для малодшага
школьнага ўзросту

ISBN 985-02-0668-3



# ЯК ЗНАЙШЛІ «ЗАЙЦАЎ КАЖУШОК»

*Светлай памяці Васіля Віткі*

Было гэта даўно. Вельмі даўно. Калі ты, мой юны сябар, яшчэ не нарадзіўся, а я толькі пачынаў друкаваць апавяданні, казкі, гумарэскі.

У студзені 1971 года я прыехаў у рэдакцыю часопіса «Вясёлка». Звычайна мае апавяданні чытаў Алесь Восіпавіч Пальчэўскі, адразу адбіраючы, што падыдзе для друку, а над чым яшчэ трэба папрацаваць.

Сёння ў рэдакцыі, апроч Васіля Віткі (Ц. В. Крысько), нікога не было. Цімох Васільевіч, ведаючы, што я прыехаў здалёку, пасадзіў насупраць і папрасіў:

— Чытайце.

І я стаў чытаць. Адно апавяданне, другое, трэцяе. Васіль Вітка слухаў мяне ўважліва, не перабіваў. Калі я закончыў, запытаў:

— І ўсё?

Я зразумеў, што мае апавяданні не спадабаліся галоўнаму рэдактару, адчуў, як у адзін момант перахапіла горла і ледзь выдавіў:

— Ёсць яшчэ дзве казкі...

— Чытайце,— спакойна прапанаваў Вітка.

Першая казка называлася «Зайцава футра». Па тым, як я чытаў, мяняўся Цімох Васільевіч. Ён то здымаў, праціраў акуляры, быццам ураз яны запацелі, то зноў адзяваў. Рукі рухаліся, а твар ажывіўся. Затым сказаў упэўнена:

— Гэта лепшае, што вы прывезлі сёння да нас,— і праз хвіліну: — А чаму «Зайцава футра»? Футра — у лісы, мядзведзя, а ў зайца — кажушок. Так-так, кажушок. Падумайце: «Зайцаў кажушок»,— і дзіўна прыцмокнуў языком, мусіць, ад сваёй знаходкі.

Я прачытаў і другую казку «Яблыня». Яе таксама ўхваліў Вітка. Прасіў дапрацаваць і даслаць у рэдакцыю. І сапраўды, ужо ў красавіцкім нумары «Вясёлкі» быў надрукаваны «Зайцаў кажушок», крыху пазней — і «Яблыня». А я паверыў, што магу стаць пісьменнікам-казачнікам.

З лёгкай Віткавай рукі неўзабаве казка «Зайцаў кажушок» з'явілася ў падручніках і дагэтуль вывучаецца ў школе. Услед за ёю ў школьныя падручнікі былі ўключаны казкі «Зайцава помста», «Вадой не разліць», казка-загадка «Лясная госця» і іншыя.

Сёння, мой юны сябар, ты трымаеш у руках кнігу казак. У яе ўвайшлі як, магчыма, вядомыя табе творы, так і зусім новыя. Чытай, любі кнігі, расці здаровым, разумным і добрым.

*Аўтар*





# Будзень і СВЯТА

Яны сустрэліся на дарозе. Ён у саламяным капелюшы, лапцях, зрэбнай апратцы, з клуначкам за плячамі. Яна сядзела ў брычцы, запрэжанай параю коней, маладая і прыгожая.

Ён пакланіўся незнаёмцы, і тая звярнула на падарожнага ўвагу:

— Хто ты? Куды ідзеш?

— Будзень я. Іду куды вочы глядзяць.

— А, цябе выгналі з сяла? — засмяялася паненка.

Ён здзіўлена паглядзеў на яе:

— Адкуль ты ведаеш?

— Я — Свята! — з гордасцю пахвалілася паненка.— Калі людзі запрашалі, я сказала, што прыйду, як цябе прагоняць.

— Ах, вось чаму ўсе раптам сталі такія нявеплівыя! — здагадаўся Будзень.— Нават у дарогу нічога не далі.

— Ідзі-ідзі і не вяртайся! — сказала, як загадала, Свята.— Я надоўга прыехала, а можа, і назаўсёды.

— Але ці можна жыць, калі кожны дзень — Свята? — засумняваўся Будзень.



— Можна! — зарагатала паненка і тузанула за лейцы.

Брычка ўехала ў сяло. Свята голасна заспявала:

Кідайце, людзі, граблі, косы —
Свята едзе ў госці!
Кідайце сярпы, жніцы,—
Будзем пець і весяліцца!



Людзі пабеглі насустрач. Свята злезла з брычкі, агледзелася:

— А чаму няма гармоніка? Дзе дуда?

Паслалі па музыкаў, а самі хуценька пачалі сталы расстаўляць, стравы насіць. Госцю на покуці пасадзілі. З'явіліся музыкі. І развесяліліся людзі, пайшлі ў скокі.

— Як жа мы раней жылі? — здзіўляліся яны.— Усё праца ды праца.

Дзень весяліліся, пяць, месяц, аж бачаць — на сталах і ў каморы пуста. Што піць, есці? Задумаліся людзі.

— Трэба за працу брацца! — сказаў адзін са старэйшых.— Іначай з голаду памром.

— Але ж у нас Свята! — запярэчылі астатнія.— Пры такой госці мы не прывыклі працаваць. Дый Будзень невядома дзе.



— Трэба знайсці яго і папрасіць, каб зноў прыйшоў.

Тым часам Будзень, пахадзіўшы па свеце, дамоў вяртаўся.

Людзі кінуліся да яго:

— Як ты дазнаўся, што нам цяжка?

— Хто доўга гуляе, той багацця не мае! — адказаў Будзень.

Пачула гэта Свята, бегма да брычкі і наўскач пагнала коней.

А людзі і цяпер у будзень працуюць, сіл не шкадуючы, а прыйдзе свята — гуляюць. Толькі надоўга ў госці да сябе свята больш не запрашаюць.





# Вадой не РАЗЛІЦЬ

На лясной паляне жылі па суседству Заяц і Вожык. Звяркі адзін без аднаго і дня не маглі пражыць.

Аднойчы Заяц сказаў Вожыку:

— Мы з табою такія дружбакі, што вадою нас не разліць!

— Нават вялікі дождж,— у тон яму адказаў Вожык.

Пачула гэта Хмара і не на жарт раззлавалася:

— А мы яшчэ паглядзім!

І склікала сваіх дзяцей.

— Дапамажыце, дзетачкі, напалохаць вунь тых смельчакоў, што Старой Хмары ўжо не баяцца,— паказала на Зайца і Вожыка.

— Я згодная! — першай падхапілася Маланка і паласнула агнявым бізуном.

— Трррэба — мы гггатовыя! — заракатаў Гром.

А Дождж нічога не сказаў, толькі з усіх сіл пачаў паліваць лес.

— Пабеглі да мяне, перачакаем дождж,— прапанаваў Вожык.

— Не, у мяне хата большая!



— У мяне самавар паставім, чай заварым...

Так і не дагаварыўшыся, звяркі разбегліся. Кожны ў сваю хату.

Раз-пораз бліскала Маланка, грымеў Гром. Сумна і страшна Зайцу аднаму ў хаце.

— Дарэмна я не паслухаўся Вожыка,— пашкадаваў Заяц.— Як радасна было б разам! Можа, ён таксама адзін дома. І яму таксама сумна. Пабягу да Вожыка.

«Але ж на дварэ дождж,— з бояззю падумаў Заяц.— Нічога, да Вожыкавай хаткі зусім блізка».

— Чаму я пакрыўдзіў Зайца? — шкадаваў Вожык.— Зараз нам удвух было б лепш!

Выбеглі звяркі са сваіх хатак, сустрэліся на паўдарозе.



— Табе сумна было, Вожык?

— Сумна. А табе?

— Вельмі.

— А цяпер?

— Цяпер весела...

Стаяць, размаўляюць, не зважаюць на дождж. Смяюцца, радасныя, быццам даўно-даўно не бачыліся.

Зразумела Хмара: не разлучыць ёй дружбакоў, прашаптала:

— Нічога, знайду такіх, што мяне збаяцца і ад дружбы адмовяцца!

І паплыла далей.

А хіба знойдуцца такія?..



# Заечая ШАПКА

Аднаго разу выменяў цыган заечую шкурку. Прынёс да шаўца, каб той пашыў яму шапку. Шавец паглядзеў на шкурку і развёў рукамі.

— Надта маленькая, шапка не выйдзе. Калі б дзве-тры такія...

— А ты трохі з яе, трохі — з палатна,— падказаў цыган.

— Ну, калі так, дык можна,— згадзіўся шавец.

Выйшла шапка са скураным клінам, і цыган вырашыў прадаць яе.

— Ці купіць хто? — засумняваўся шавец.

— А ты прыйдзі на кірмаш — убачыш...

На кірмашы цыган голасна заклікаў пакупнікоў:

— Купляйце заечую шапку! Купляйце заечую шапку! Прадам нядорага...

Сабраўся народ, слухае цыгана, пацвельвае:

— Якая ж гэта заечая?! Яна — палатняная!

— Не кажыце так! — пасміхаецца цыган.— Вось тут паглядзіце: заечая шапка? — паказвае на ўшытую шкурку.





— Заечая,— гаворыць нехта з натоўпу.

Цыган лоўка пакручвае шапку ў руках і паказвае тым самым бокам:

— І тут, бачыце, заечая!

Цыган трэці раз пакручвае шапку ў руках, зноў паказвае на лапік шкуркі і пытае:

— А тут хіба не заечая?

— Заечая! — весяляцца людзі цыгановай выхадкай.

Знайшоўся-такі бедны шляхцюк і купіў шапку.

Позна вяртаўся ён дамоў. Штосьці спалохала каня, кінуўся ён раптам наўскач. Дубовая галіна моцна сцебанула шляхцюка, збіла з галавы шапку.

Ён поўзаў па зямлі, шукаючы прапажу, калі пад'ехаў шавец.

— Што шукаеш, паночку? — спытаў ён.

— Шапку сёння купіў і згубіў.

— Ці не заечую? — усміхнуўся ў вусы шавец.

— Заечую,— прызнаўся шляхцюк.

— То дарэмна шукаеце, паночку! Яна зноў ператварылася ў зайца і ў лес паскакала.

— Як жа так?! — аж усхапіўся на ногі шляхцюк.

— Ты ж у цыгана купляў. А ён усё можа.

— Значыць, не варта шукаць,— замаркоціўся шляхцюк, сеў на брычку і паехаў.

Шавец весела смяяўся яму ўслед.





# Бот ці ЛАПАЦЬ?

У даўнія часы, калі людзі жылі не так багата, асноўным абуткам у палешукоў былі лапці. Сплеценыя з лыка, яны служылі мужыку ўзімку і летам.

Не я і нават не мой дзед, а дзедаў дзед Сцяпан у новых лапцях паехаў у мястэчка на кірмаш. Павёз жыта прадаваць.

Між вазамі важна паходжваў пан Пшэкраса. Хромавыя боты парыпвалі: рып-рып, рып-рып!

Слухаў, слухаў дзед Сцяпан і сказаў насмешліва суседу:

— Рыпяць панскія боты, як драчы на балоце!

Як ускінуўся пан Пшэкраса! Гатовы быў, здавалася, кулакамі малаціць:

— Што, мужык, табе мае боты не падабаюцца?! Можа, лапці твае лепшыя?

— Можа, й лепшыя? — спакойна адказвае дзед Сцяпан.

— А ты дакажы!

— І дакажу! — гаворыць Сцяпан.— Калі вунь да той сасны першы дойдзеш — значыць, твае боты лепшыя, а калі я — дык мае лапці. Згодзен?

— Згодзен.

Сабраліся людзі паглядзець, што выйдзе: не кожны ж дзень мужык з панам цягаецца!

Спачатку яны ішлі ўровень, ды трапілася вялікая лужына — ад аднаго краю дарогі да другога. Сцяпан як ішоў, так і пайшоў. А пан, пакуль разуўся, прайшоў лужыну, зноў абуўся і... адстаў.

— Несправядліва! — крычаў пан Пшэкраса.— Я мусіў разувацца і абувацца.

— Ну, дык і я кажу, што лапаць лепей за бот.

— Няпраўда твая. Давай назад яшчэ пройдзем! — прапаноўвае пан Пшэкраса.

— Давай...

Дайшлі яны да лужыны. На гэты раз Пшэкраса не стаў разувацца. Ступіў раз, ступіў два — набраў вады. Боты сталі цяжкія, і пан зноў прайграў мужыку.

— Давай трэці раз! — гарачыцца Пшэкраса.

— Не трэба, паночку. Усё адно прайграеш.

А тут яшчэ з натоўпу нехта заўважыў:

— Не стае сілы ў пана, каб перамагчы Сцяпана!

— Бо наш Сцяпан — сам сабе пан! — дадаў другі.

Бачыць пан Пшэкраса, што ўсе смяюцца з яго, і пайшоў прэч...

Вярнуўся Сцяпан з кірмашу і стаў забывацца пра здарэнне, калі ў нізкую дзедаву хату заявіўся сам пан Пшэкраса.





— Я хачу,— сказаў ён,— памяняць свае боты на тыя лапці, у якіх ты на кірмашы быў...

Аказалася, што ў гэты дзень на кірмашы была і любімая панская дачка Гэлена. Яна бачыла, як сапернічаў бацька з мужыком, і запатрабавала ад пана Пшэкрасы, каб ён прывёз для яе тыя лапці.

— А чаму не памяняцца? — згадзіўся адразу дзед Сцяпан.

Пан Пшэкраса адчыніў дзверы і гукнуў фурмана. Той прынёс хромавыя боты.

Дзед Сцяпан сплёў сабе новыя лапці, а ў панскіх ботах хадзіў толькі па святах у царкву. Пасля сыну свайму перадаў, а той — свайму. І доўга-доўга яшчэ ўспаміналі ўсе добрым словам дзеда Сцяпана.





# ЯБЛЫНЯ

Жыў-быў Чалавек. Ён любіў вырошчваць розныя дрэвы. Аднойчы засадзіў зярнятамі цэлы гародчык. Дружна пайшлі ў рост маладыя дрэўцы, толькі адна Яблынька была маленькая, кволая.

Падышла да яе Курыца, закудахтала:

— Вось я зараз цябе выграбу, нічога не застанецца!

— Навошта ж мяне выграбаць? — адказала Яблынька.— Лепш я табе, як вырасту, яблык дам.

Курыца падумала і не кранула яе.

Перасадзіў Чалавек Яблыньку ў сад.

Прыбег Заяц:

— Вось абгрызу кару — і ты засохнеш!

— Якая ж карысць з гэтага будзе, Заяц? Лепш я табе, як вырасту, два яблыкі дам.

Парашыў і Заяц яблыкаў дачакацца.

Чалавек прышчапіў Яблыньку. І пайшла яна расці — ажно сяброўак перагнала.

Аднойчы ў сад забраўся Мядзведзь. Вельмі спяшаўся паласавацца мёдам у вуллях, ды зачапіўся за дрэўца, раззлаваўся і зароў:

— Выцягну зараз з коранем, каб не замінала!

— Не трэба, Міхайла Іванавіч,— папрасіла Яблынька.— Як вырасту, я табе тры яблыкі дам.

— А салодкія хоць тыя яблыкі будуць?

— Салодкія. Як мёд!

— Добра, тады не буду...

Нарэшце Яблыня зацвіла. Радаваўся Чалавек, пазіраючы на яе квецень. А восенню смачныя яблыкі зачырванеліся на галінках.





Першай прыйшла да Яблыні Курыца:

— Ты не забылася, што мне абяцала?

Яблыня скінула ёй яблык.

Пасля прыскакаў Заяц:

— А мне яблыкі будуць?

— А як жа. Вось табе два.

Апошнім прытупаў Мядзведзь:

— Ну, аддавай доўг!

Яблыня скінула яму тры яблыкі.

Курыца, аднак, нагледзела, што на галінках яшчэ шэсць яблыкаў засталося. Не вытрымала і спытала:

— А гэтыя каму?

— Чалавеку.

Курыца пайшла за сяло, сустрэлася з Зайцам і паскардзілася:

— Яблыня мне адзін яблык дала, а Чалавеку ажно шэсць пакінула.

— А мне толькі два...— уздыхнуў Заяц і адразу ж пабег шукаць Мядзведзя.



— Несправядліва, Міхайла Іванавіч,— лісліва пачаў касавокі.— Мне два яблыкі дала. Курыцы — адзін, а Чалавеку аж цэлых шэсць беражэ.

— Непарадак! — зароў Мядзведзь.— Мне — тры, а Чалавеку — шэсць! Чым я горшы за Чалавека?

Прыйшлі Курыца, Заяц і Мядзведзь да Яблыні.

— Чаму мне толькі адзін яблык дала?..

— А мне два?..

— А мне тры? — зароў Мядзведзь.— Чым жа Чалавек лепшы за нас?

— А тым,— адказала Яблыня,— што Чалавек клапаціўся пра мяне, памагаў мне. А вы толькі пагражалі знішчыць. Цяпер я толькі Чалавеку буду дарыць яблыкі.





# Вецер і ЧАЛАВЕК

Вольны Вецер лётаў над зямлёю. Часам ён меў такую сілу, што вырываў дрэвы з карэннем, разбураў жытло людзей, птушак, звяроў.

— О, магутны Вецер, паслужы мне,— папрасіў аднойчы Чалавек, але ў адказ пачуў:

— Ніколі! Я — вольны і нікому служыць не буду!

— А калі ўсё-такі тры разы ты дапаможаш мне? — запытаў Чалавек.

— Ну, калі тройчы ты акажашся разумнейшы за мяне, дык стану табе служыць,— пагадзіўся Вецер.

— Значыць, пабеглі навыперадкі,— усміхнуўся Чалавек.— Паглядзім, хто спрытнейшы!..

Неўзабаве яны былі ля возера. Чалавек ускочыў у лодку, якая была пад ветразем, і паплыў. Вецер дзьмуў са страшэннай сілай, стараючыся патапіць човен. Але чым мацней Вецер дзьмуў, тым хутчэй лодка бегла да берага.

Вецер зразумеў, што яго абхітрылі, калі лодка прычаліла, а Чалавек сказаў:

— Дзякуй табе, слаўны Вецер! Ты дапамог дамоў дабрацца.

«Ён не спалохаўся маёй сілы»,— незадаволена ўздыхнуў Вецер.

У другі раз выпала Ветру пралятаць над Чалавечым жытлом. Ён убачыў млын з вялізнымі крыламі. «Ці змагу я круціць такія крылы?» — падумаў Вецер.

Крылы, і праўда, былі цяжкія, але ён паднатужыўся і зрушыў іх з месца. Далей пайшло лягчэй. Скрыгаталі млынавыя камяні, сыпалася белая мука.

Чалавек выйшаў на вуліцу:

— Дзякуй табе, што дапамог мне пшаніцу змалоць!

«Які ён працавіты!» — падумаў Вецер.

Прайшоў час. Аднойчы Вецер убачыў на высозным слупе кола з крыламі. На гэты раз крылы былі меншыя. Вецер, пералятаючы з аднаго на другое, доўга гуляў з імі.

Раптам зрабілася светла і ў доме, і на падворку, а Чалавек радасна сказаў:

— Дзякуй табе, добры Вецер, за святло!

«Які ён разумны!» — падумаў Вецер, а ўголас перапытаў:

— Гэта ўжо трэці раз я табе дапамог?

— Трэці.

— Ты, я бачу, смелы, працавіты, разумны,— пахваліў Чалавека Вецер.— Слова сваё я трымаю. Значыць, я буду дапамагаць табе…



# СПРЭЧКА літар

Доўга-доўга ўсе літары жылі між сабою дружна, дапамагалі адна адной. Ды ў нейкі момант галосным здалося, што іх крыўдзяць зычныя. У кожным слове зычных збіраецца некалькі, а галосных — адна альбо дзве. Калі нават тры, дык зычных усё роўна болей. А яны, галосныя, і прыгожыя, і пявучыя.

— Мы абыдземся без зычных! — як бы за ўсіх выказалася літара Ы.

— Зможаце абысціся без зычных? — здзівілася З.

— Чаго ж! О, галосныя змогуць! — падтрымала Ы літара О.

— Жартуеце, даражэнькія! — жвава ўступіла ў гаворку Ж.— Жук без Ж жужжаць не зможа, але й тут У патрэбна.

— Ніколі не думала, што І ды Е стаяць поруч са мной не захочуць,— насупілася нявесела Н.

— А на што вы нам?! Мы з У слова новае ўтворым,— загаварыла А, і яны прамовілі разам:

— АУ.

— Вы што, сярод літар заблудзіліся? — засмяяўся пытальнік, які ўвесь час слухаў моўчкі.

— Можам і іншае слова ўтварыць,— і памяняліся месцамі: — УА.

— Зусім здзяцініліся задавакі! — злосна заявіла З.

— Балаболкі, не больш! — быццам адрэзала Б.

— Мы — балаболкі і задавакі? — заспяшалася І.— Я ведаю дзяўчынку, імя якой Ія. І няма ніводнай звычнай.

— Я ведаю раку, назва якой Яя,— выпучыла ўперад грудзі літара Я.— Дый сама я — цэлае слова.

— Вельмі важныя вяльможы! — выказалася В.— Венікам бы вас!

— Пашукайце «шалаш» без дзвюх Ш. А як вы без нас скажаце: «На шыне ад машыны шыпшыну сушылі»? — шумела Ш.

— Р-р-р! — раптам зарычала Р, як Рэкс.— Не закаркае Варона без маёй літары. Але й «кар» і «рак» патрабуюць адной А, «рака» і «кара» — ажно дзвюх. Разам трэба быць, разам!

— Разам трэба быць, разам! — паўтарыў клічнік.— Хопіць спрэчак! Ану, усе ў алфавіт на свае месцы!

Добра ведаючы пра яго цвёрды характар, літары адразу памірыліся, сталі на свае месцы.

З тае пары яны зноў жывуць дружна.





# Казкі-ЗАГАДКІ

## 1. БРАТ І СЯСТРА

Жылі-былі брат і сястра. Брат быў ружовашчокі, а сястра, наадварот,— смуглявая. У брата было толькі адно сонейка, а ў сястры — месяц рагаты і тысячы зорак.

Жылі яны спачатку дружна, а потым пасварыліся. Сястра ўсё пасмейвалася з брата:

— Што ты з адным сонейкам гуляеш? Вось у мяне, бачыш, колькі зорак! З імі гуляць куды цікавей.

Маўчаў брат.

— Я згодна памяняцца з табою. Вазьмі мае зоркі, а мне сонца аддай.

— Не, сястрыца, сонейка для мяне мілей!

Пасварыліся брат з сястрою і перасталі сустракацца. Прыйдзе брат і сонейка з сабою прывядзе, а сястра ўцячэ, схаваецца. Чакае, пакуль брату не захочацца адпачыць.

Заўважыла сястра: як толькі яна прыходзіць, людзі адразу працу кідаюць, спаць кладуцца. Крыўдна ёй стала.

— Чаму ты не працуеш, калі я прыходжу? — спытала яна ў аднаго Чалавека.



— Я добра папрацаваў, пакуль твой брат быў. Зараз адпачыць трэба.

Яшчэ больш крыўдна стала сястры:

— Дык, можа, мне зусім не прыходзіць?

— Не, чаму ж! Хіба змог бы я столькі зрабіць, каб не адпачываў? — адказаў Чалавек і папрасіў: — Вы, калі ласка, заўсёды прыходзьце, толькі паасобку.

Хто з вас, дзеці, здагадаўся, як завуць брата і сястру?





## 2. СУСТРЭЧА Ў НАВАГОДНЮЮ НОЧ

Апоўначы, як толькі на гарадской вежы сталі званіць куранты, з дома выйшаў дзяцюк у белым кажушку і пачаў запрагаць дванаццаць коней. Брычка была незвычайная: адно кола — белае, другое — зялёнае, трэцяе — чырвонае, чацвёртае — залацістае, а ў колах 365 спіцаў.

— Куды едзеш? — спыталіся ў дзецюка.

— На сустрэчу з братам, які з'явіцца праз год,— адказаў вазніца.

Брычка мчалася па палях і лугах, штодзень губляючы спіцы. Потым у дарозе згубіўся адзін конь, другі, а потым — і кола. А брычка ўсё ехала і ехала. За гэты час вазніца падрастаў, мяняўся.

Калі ж на наступны Новы год зноў пачалі біць вежавыя куранты, усё раптам знікла: і спіцы, і колы, і коні, а вазніца быў ужо немалады вусаты чалавек.

Да яго выйшаў зусім яшчэ юны дзяцюк, і яны абняліся.

— Што мне рабіць, брат? — запытаў маладзенькі.

— Запрагай коней і едзь на сустрэчу з тым братам, якога яшчэ няма.

— А як яго я пазнаю?

— Ён сам цябе знойдзе,— сказаў старэйшы і знік, быццам праваліўся ў снежны сумёт.

І дзяцюк стаў запрагаць коней...

Якія браты сустракаюцца адзін раз і толькі ў навагоднюю ноч?



## 3. ЛЯСНАЯ ГОСЦЯ

Набліжаўся Новы год. У клас, дзе вучыліся дзеці, нехта моцна пастукаў. Хлопчыкі і дзяўчынкі адарваліся ад падручнікаў, глянулі ў акно і ўбачылі лясную госцю.

— Ёй холадна,— жаласліва сказала дзяўчынка з вялікім блакітным бантам.



— Давайце паклічам яе ў клас! — прапанаваў хлопчык.

— Не,— сказала настаўніца,— у класе ёй будзе цесна. Давайце лепей запросім яе ў школьную залу.

Абагрэўшыся ў цяпле, лясная госця засумавала без сяброўкі-бярозы, без рабіны ў чырвоных каралях, якія раслі непадалёку.

— Давайце ўпрыгожым яе! — падказала настаўніца.

Дзеці павесілі цацкі, цукеркі, яблыкі, а наверсе зорку прымацавалі. А госці ўсё роўна не радасна.

— Да мяне прыбягалі заяц, вавёрка, ліса, а зараз нікога няма...

— Будуць табе і звяркі,— паабяцалі дзеці.

Яны зрабілі маскі зайца, вавёркі, лісіцы, мядзведзя. А калі на свята прыйшлі Дзед Мароз і Снягурка, калі ўсе сталі вадзіць карагод, зусім развесялілася лясная госця, і вырашыла яна кожны раз прыходзіць да дзяцей пад Новы год.

Хто хутчэй адкажа: як завуць лясную госцю?

## 4. САМЫ КАРОТКІ МЕСЯЦ

Сабраў бацька Год сыноў Месяцаў і сказаў:

— Стары я ўжо стаў. Цяжка мне аднаму кіраваць на зямлі. Хацеў бы, каб вы мне дапамаглі ў гэтым. А таму пытаюся: хто чым будзе займацца, як прыйдзецца гаспадарыць на зямлі?

Адзін вырашыў снег растапіць, сок у ствалах дрэў пусціць, другі — кветкі рассыпаць па лугах, трэці — збажыну расціць, чацвёрты — дапамагчы сабраць ураджай, пяты — зямлю снегам пакрыць, каб мароз карэньчыкі раслін не вынішчыў...

Слухаў бацька Год сыноў сваіх, радасна ўсміхаўся ў сівую бараду і назначаў, каму колькі гаспадарыць на зямлі: таму — трыццаць дзён, таму — трыццаць адзін.





А як дайшла чарга да аднаго з малодшых сыноў, дык той раптам заявіў:

— Як прыйду я на зямлю, буду ўсё жывое марозіць, знішчаць. Ух, як я люблю гэта рабіць!

Не спадабаліся яго словы бацьку.

— Табе, сыне, толькі дваццаць восем дзён адвяду.

Заплакаў ад крыўды сын:

— А чаму мне найменш? Хачу столькі ж, як і братам маім.

— Ты — злосны! Значыць, быць табе самым кароткім месяцам. Ну, ладна,— палагаднеў нарэшце бацька Год,— на чацвёрты раз як прыйдзеш на зямлю, гаспадарыць будзеш на адзін дзень больш.

Якое імя ў гэтага сына? Здагадаліся ўжо?

## 5. ЧЫЯ МОРКАЎКА?

Быў сакавік. Раніцай Вавёрка высунулася з дупла і ўбачыла: на суседняй бярозе нехта павесіў моркаўку. Толькі чамусьці белую. «Гэта Заяц, мусіць, павесіў,— вырашыла Вавёрка.— Ён вельмі моркву любіць».

А тут і Заяц некуды спяшаецца.

— Слухай, шарачок, ці не твая моркаўка на бярозе вісіць?



— Моркаўка?! — здзівіўся Заяц.— Не, не мая. Я гэтак высока залезці не магу.

— І то праўда. Хто ж яе павесіў? — задумалася Вавёрка.

— Можа, Дзяцел? Учора чула, як стукаў па бярозе.

Пайшлі Вавёрка і Заяц да Дзятла.

—Дзядзечка, гэта ты ўчора на бярозе, што ля маёй хаты, моркаўку павесіў? — спыталася Вавёрка.

— Моркаўку? Ды не, ніякай моркаўкі я не вешаў. Учора я там толькі крыху бярозавіку папіў,— адказаў Дзяцел.

— Чыя ж моркаўка? — задумаліся ўсе.

— А можа, яна нічыя,— выказала здагадку Вавёрка.

— Як гэта нічыя? Такога не бывае,— не згадзіўся Заяц.— Яе абавязкова нехта павесіў.

— Можа, нехта павесіў — і забыўся? — сказаў Дзяцел.— Дык ты, шарачок, вазьмі яе сабе на абед...

І вось яны зноў ля той бярозы.

— А моркаўка дзе? — запытаў Дзяцел.



— Вунь там, ля самай вяршаліны, вісела. Праўда, Зайка?

— Праўда.

— Значыць, яе забраў той, хто павесіў,— вырашыў Дзяцел.

— Значыць, забраў,— згадзіўся і Заяц.

— А шкада,— сказала Вавёрка.— Які смачны абед быў бы ў цябе, шарачок!

— Нічога,— адказаў той.— Вясной ежы больш, чым зімою.

Ну, хто першы адгадае, што за моркаўка такая? І ці згадзілася б яна на абед Зайцу?

## 6. ХТО ПАДКАЗВАЎ У КЛАСЕ?

У чаратах размясцілася качыная школа. Вывучалі складанне лікаў.

Строгая настаўніца Качка Кіраўна задала пытанне:

— Колькі атрымаецца, калі да «кра» прыбавім яшчэ «кра»?

Не паспелі качаняты ўзняць крыльцы, як нехта падказаў:

— Кра-кра!

— Правільна,— пахваліла настаўніца.— Хто гэта сказаў?






Качаняты маўчалі.

Настаўніца зноў задала пытанне:

— Колькі будзе, калі «кра», «кра» і яшчэ «кра»?

Рыжанькі Качар узняў крыло.

Толькі Качка Кіраўна дазволіла яму адказваць, як нехта звонка зноў прагаварыў:

— Кра-кра-кра!

— Качка Кіраўна, я ведаю, чэснае слова,— заспяшаўся Рыжанькі Качар.— Дык чаго яна падказвае.

І ён скубануў суседачку Шэрую Шыйку за бок. Суседка не захацела цярпець гэтага. Пачалася бойка.

— Навошта падказвала?! А настаўніца падумала, што я не ведаў!

— Не падказвала я, не падказвала! — апраўдвалася Шэрая Шыйка.

— Хопіць біцца! — Качка Кіраўна падбегла да іх парты.

Калі Рыжанькі Качар і Шэрая Шыйка спынілі бойку, настаўніца спытала ў качанят:

— Дык хто падказваў у класе?

Задумаліся качаняты. Дапаможам ім, сябры!



## 7. ПАСПРАБУЙ ПЕРАКРЫЧАЦЬ

Хараша ў лесе! Высокія яліны акружылі палянку з усіх бакоў. На прыгрэтым сонцам пагорку хлопчык знайшоў сямейку лісічак і стаў зразаць грыбкі.

Калі Максімка ўзняў вочы, дзядулі побач не было. Хлопчык кінуўся ў адзін бок, у другі — дзед як скрозь зямлю праваліўся. Максімку раптам стала страшнавата. Ён дрыжачым голасам паклікаў:

— Дзеду!

І ў той жа момант нехта непадалёку азваўся:

— Ду-ду! Ду-ду!

— Ау! — грамчэй крыкнуў хлопчык.

Хтосьці невядомы, быццам гуляючы ў дражнілку, некалькі разоў паўтарыў «ау».

Максімка склаў рупарам далоні і закрычаў:

— Дзеду, ау!

Выразна пачулася:

— Ду-ду, ау!

Ад таго, што ён адзін і што нехта хоча з ім гуляць, хлопчыку зрабілася весела.

— Яшчэ пабачым, хто каго перакрычыць! — сказаў ён.

Не паспелі скончыць гульню, як з-за дрэва выйшаў дзядуля з поўным кошыкам грыбоў.

— Я — тут. Чаго крычыш? Што, страшна?!



— Не, гэта мы гулялі, хто каго перакрычыць.

— А-а! — зразумеў унука дзядуля.

А вы, дзеці, здагадаліся, з кім гуляў Максімка?



## 8. ЗОРАЧКІ-ЗОРКІ

Вавёрка Вера раніцай выскачыла з дупла, зрабіла фіззарадку і раптам убачыла: на зямлі пад сасною хтосьці за ноч рассыпаў зоркі. Залаціста-жоўтыя, прыгожыя. Вавёрка спусцілася ніжэй, але сысці на зямлю пабаялася: можа, яны гарачыя?

У гэтую хвіліну пад дрэвам прабягала Ліса.

— Лісіца-сястрыца,— ласкава звярнулася да яе вавёрка.— Што гэта за зорачкі-зоркі ўнізе?

Ліса на момант прыпынілася і адказала весела:

— Ніякія гэта не зорачкі, а грыбы з маім імем.

— Грыбы? — здзівілася вавёрка Вера.— А чаму яны залаціста-жоўтыя?

— Такія ж, як я,— засмяялася Ліса і пабегла далей.

А вавёрка Вера яшчэ доўга не магла паверыць, што гэта не зорачкі, аж пакуль не прыйшоў сюды Чалавек, які пачаў зразаць і класці іх у кошык.

Якія зоркі ўбачыла вавёрка Вера?

## 9. ГРЫБЫ Ў ГОРАДЗЕ

Раніцай дзядуля будзіў унука:

— Уставай, Максімка, грыбны дождж прайшоў, грыбоў насеяў!

Грыбоў і сапраўды ў лесе было шмат. Неўзабаве Максімка з дзедам набралі поўны кошык падасінавікаў, ababak, лісічак. Знайшлі нават сем баравікоў.

— Дзядуля, а што, у горадзе іншы дождж ідзе? — запытаў унук, калі вярталіся дамоў.

— Як гэта іншы? — не зразумеў дзядуля.

— Калі дождж на лес пайшоў, дык грыбоў насеяў. А калі на горад?..— дапытваўся Максімка.

— У горадзе таксама грыбы бываюць,— усміхнуўся дзядуля.— Рознакаляровыя: чырвоныя, зялёныя, сінія, блакітныя... Яны з'яўляюцца на тратуарах, як толькі пачнецца дождж.

Задумаўся ўнук, пра якія грыбы гаворыць дзядуля.

— Вялікія, яны хаваюць людзей ад дажджу,— падказваў дзядуля.— Гэтых грыбоў ніхто нажом не зразае,



у кошык не кладзе. Пройдзе дождж — адразу самі знікнуць.

— А, ведаю, пра якія грыбы ты гаворыш! — хітравата прыжмурыўся Максімка.

І вы ўжо здагадаліся, дзеці?..

## 10. ХМАРЧЫН РУЧНІК

Мядзведзіка Патапку толькі што памылі, выцерлі чыстым ручніком. Маці пачала прыбіраць у хаце, а ён прымасціўся ля акна.

Нечакана выплыла хмарка. Паліў цёплы летні дожджык.

Патапка бачыў, як дожджык мые дрэвы і кусты за акном.

Хмарка паплыла далей. Зноў выглянула сонца. І Патапка заўважыў на небе... каляровы ручнік.

— Мама! — крыкнуў ён.— Глянь: хмарка ручнік пакінула!

— Дзе ён?

— Вунь, на небе,— паказаў лапай Патапка і дадаў: — Я ведаю навошта. Каб дрэвы, памыўшыся, маглі выцерціся.

Тут сонейка схавалася, і ручнік — прапаў.

— А дзе ручнік? — захныкаў Патапка.

— Чаго ты плачаш, дурненькі? — пачала суцяшаць маці.— Сам жа казаў, што хмарка пакінула ручнік,

каб дрэвы маглі выцерціся пасля дажджу. Дрэвы выцерліся, і хмарка забрала свой ручнік.

А вы, сябры, ведаеце, які ручнік на небе ўбачыў Патапка?







## 11. КАВАЛЬ

Пасля абеду з захаду прыплыла вялікая чорная Хмара, пайшоў спорны дождж. Ніхто не бачыў, калі Каваль падставіў высозную драбіну і хуценька ўзабраўся наверх. Але неўзабаве ён пачаў старанна працаваць: застукаў, загрукаў, і з накавальні паляцелі залатыя іскры.

Хмара разраслася і закрыла Сонца. А Каваль працаваў і працаваў. Часам грукаў так моцна, што, здавалася, уздрыгвала зямля, а іскры віліся доўгімі змейкамі.

Нарэшце, ці Каваль стаміўся, ці работу сваю ўжо заканчваў, але стукаў ён усё радзей і радзей. А затым і зусім паклаў молат.

Хмара паплыла далей, і зноў выглянула Сонца. Яно папрасіла Каваля:

— Пакажы, што выкаваў ты!

І Каваль выставіў на паўнеба сяміколерны зіхуткі мост.

— Маладзец! — усміхнулася Сонца.

Як завуць Каваля і што за дзіва-мост ён выкаваў?

## 12. ЖУЧОК З ЛІХТАРЫКАМ

Аж пакуль не сцямнела, Заяц з Зайчыхаю палолі градкі з капустаю. А ісці было не так блізка. Кожнага куста, кожнага дрэва баялася Зайчыха:

— Ой, воўк!



— Ну і баязліўка! — смяяўся Заяц.

Раптам Зайчыха спынілася:

— Глядзі, Зай: наперадзе агеньчык!

— Не бойся,— супакоіў яе Заяц.— Гэта добры агеньчык. Залаты.

Нечакана на сцяжынку выскачыў Жучок з ліхтарыкам.





— Я буду праводзіць вас. Каб светла было ісці,— сказаў ён.

— Калі ласка,— узрадавалася Зайчыха.

Калі прыйшлі дамоў, Заяц з Зайчыхаю пакланіліся Жучку:

— Дзякуй табе! Дзякуй, што сцежку асвятляў і мы з дарогі не збіліся.

Які Жучок дапамог Зайцу і Зайчысе?

АДКАЗЫ НА КАЗКІ-ЗАГАДКІ: 1. Дзень і ноч. 2. Стары і Новы год. 3. Навагодняя ёлка. 4. Люты. 5. Лядзяш. 6—7. Рэха. 8. Грыбы лісічкі. 9. Парасоны. 10. Вясёлка. 11. Гром і вясёлка. 12. Светлячок.

# Вясёлая ПЕСЕНЬКА

Скакала па балоце Жаба. З купіны на купіну, з купіны на купіну. Зірк: ляжыць скрутачак. Разгарнула, а там — ноты.

— Ого, песенька! — зарадавалася Жаба. — Вывучу яе. І назавуць мяне спявачкаю.

Жаба прымасціла ноты на купіне і давай развучваць:

Ква-ква-ква,
Ква-ква-ква...

— Э, сумная песенька! — неўзабаве вырашыла Жаба і адклала ноты ўбок.

Бусел, які якраз быў непадалёку, сказаў:

— Можа, ты не разумееш музыкі? Аддала б лепш ноты Салаўю. Ён добры музыка, разбярэцца, якая гэта песня.

— Разбярэцца ён, ква-ква! — засмяялася Жаба. — Я сама ўжо разабралася: су-умная песенька! — Яна хвіліну падумала, потым дадала: — Добра, занясу ноты Качцы — маёй суседцы. Да яе скакаць бліжэй. Ды і ўсе кажуць, што ў музыцы яна разбіраецца.





— Можа, гэтак жа, як ты?! — заўважыў Бусел, але Жаба не звярнула на яго словы ніякай увагі.

Калі Качка пачала развучваць ноты, у яе атрымлівалася:

Кра-кра-кра,
Кра-кра-кра...

— Праўда, праўда, суседачка, — вельмі хутка згадзілася з Жабаю Качка,— нецікавую ты песню мне прынесла. Запяеш яе — спаць хочацца.



— Вось бачыш! — павучальна сказала Жаба Буслу.— Сумная песня! Не адна я так думаю.

— Хоць я і не музыка, але, мне здаецца, песенька спадабаецца Салаўю. Занясі ўсё-такі яму ноты,— стаяў на сваім Бусел.

— Якая вясёлая мелодыя! — усклікнуў Салавей, калі ўбачыў ноты.

— Не спяшайся так казаць,— папярэдзіла яго Жаба.— Я і Качка таксама гэтак думалі, але вельмі хутка



расчараваліся. Сумная песенька! Інакш хто б выкінуў ноты.

— А можа, іх згубіў які музыка? Добра, пакіньце мне ноты. Я пастараюся разабрацца.

— А колькі табе на гэта трэба часу?

— Мусіць, тыдзень.

— Ква-ква! — зарагатала Жаба.— Каб разабрацца ў песні, няўжо столькі часу спатрэбіцца?

— Столькі, а можа, і больш...

Праз тыдзень Жаба сабралася ісці да Салаўя. Раптам яна пачула невядомую вясёлую мелодыю. Іграў яе на скрыпачцы Конік, а Пчолы і Птушкі спявалі песню. У ёй гаварылася пра тое, як добра жывецца ў лесе і на лузе, калі свеціць яснае сонейка і ёсць сябры.

— Што гэта за песенька? — спыталася Жаба ў Бусла.—Нешта я не ведаю яе.

— Словы яе напісаў Салавей,— адказаў ёй Бусел.— А ноты тыя, што ты знайшла. Бач, якая вясёлая песня атрымалася!






Далёка разнеслі Сарокі навіну:

— Хтосьці згубіў у лесе люстэрка. Люстэрка ў лесе!

Першай прыбегла да лясной крыніцы з люстраной вадою Ліса. Глянула ў ваду і засталася задаволенай:

— Якая я прыгожая! Якое цудоўнае ў мяне футра!

Доўга любавалася сабою.

Толькі адбегла ад крыніцы, як сустрэлася з Мядзведзем. Міхайла Патапавіч быў злосны. Толькі што ён палез да вулля, а Пчолы так пакусалі яго, што Мядзведзю прыйшлося ўцякаць. Нават мёду не пакаштаваў.

Мядзведжая галава балела ад укусаў, адно вока зусім запухла. А Ліса так ласкава сказала яму:

— Як даўно я вас не бачыла! Змяніліся вы за гэты час, Міхайла Патапавіч...

Мядзведзь нядобра зіркнуў на яе, а Ліса, быццам не заўважыла, працягвала:

— Паздаравелі крыху. Прыгажуном сталі. Чулі, Міхайла Патапавіч, у нашым лесе люстэрка з'явілася.



Вось бы вам паглядзецца ў яго!..— і лісліва ўсміхнулася.

Спадабаліся Мядзведзю яе словы.

— А дзе ж тое люстэрка, Ліска? — запытаў ён.

— Тут недалёчка, за дрэвамі...

Міхайла Патапавіч рушыў да крынічкі, а Ліса, пасмейваючыся, пабегла сваёй дарогай.

Як толькі Мядзведзь глянуў у люстраную ваду, зразумеў: пасмяялася хітрая Ліса з яго. Зароў ад злосці, пляснуў лапай па вадзе — толькі кругі пайшлі. Адстаялася вада — ізноў перакошаны Мядзведзеў твар.

Яшчэ больш раззлаваўся Міхайла Патапавіч. Схапіў вялізны камень, што знайшоў непадалёку, і кінуў у крынічку. Потым буралому нацягаў.

Неўзабаве Дзяцел-тэлеграфіст адбіў тэлеграму: «Збірайцеся, лясны народ! Знікла крыніца. Будзем ратаваць яе».

Сабраліся звяры і птушкі. Выцягнулі буралом з вады, а браты Бабры з Выдрай да каменя вяроўку прымацавалі. Толькі ніхто адзін не змог выцягнуць яго з крыніцы: ні Ліса, ні Дзік, ні Лось. Тады Заяц прапанаваў:

— А калі ўсе разам возьмемся?

Узяліся дружна — раз, два, тры! — і выцягнулі камень. І зноў у ваду, быццам у люстэрка, сонца глядзіцца. Дый звяры не абмінаюць крыніцу. Мядзведзя, праўда, ніхто тут больш не бачыў.




У восень Стары Журавель вёў клін на поўдзень, далей ад лютых маразоў, ад сцюжы. У дарозе ён адчуў: сталі здаваць сілы. «Старасць!» — падумаў ён.

Была, аднак, надзея: адпачне — сіл прыбавіцца. Але дарэмна — гады ўзялі сваё. Важаком стаў Малады Журавель, яго сын.

Вясною паміж бацькам і сынам адбылася такая размова.

— Тата, табе не пераляцець мора,— сказаў сын.— Заставайся лепш тут.

— Эх, сыне! — уздыхнуў Стары Журавель.— Не магу я жыць без радзімы. Лепш я загіну, як буду ляцець дамоў, чым памру ад нуды на чужыне.

— Як хочаш!..

Старому Жураўлю хацелася верыць, што сын будзе памагаць яму ў дарозе. І радаваўся, калі той азіраўся назад. «Ён памятае пра мяне»,— думаў бацька.

Навальніца сустрэла птушак ноччу. Раз-пораз бліскалі маланкі, не сціхаючы ракатаў гром. Хмара апусцілася так нізка, а хвалі ўзнімаліся так высока,



што здавалася, яны згаварыліся праверыць, ці моцныя крылы ў птушак.

Дождж ліў як з вядра. Стары Журавель раптам адчуў, што крылы перастаюць яго слухацца. Яму зрабілася страшна. Як ні стараўся ён, аднак адстаў і ў роспачы гукнуў:

— Курлы, курлы! Куды вы?..

Але за шумам ветру і дажджу ніхто не пачуў яго крыку. Застаўшыся адзін, Журавель падумаў: «Не, ніколі мне не перамагчы гэтай навальніцы. Я ўсё роўна загіну, не даляцеўшы да берага. Дык ці варта дарэмна траціць апошнія сілы?..»

Ён гатовы быў скласці крылы, каб упасці ў марскую бездань, як нехта маленькі, трапяткі прысеў на яго спіну.

— Хто ты? — спытаў Стары Журавель.

— Я — Маладзенькая Ластавачка. Адстала ад сваіх сяброўак. Памажыце мне пераляцець мора.

Яшчэ хвіліну назад Жураўлю здавалася, што ён — стары, нікому не патрэбны. Ды не, аказваецца, і ад яго чакаюць дапамогі. Жураўлю стала радасна. Крылы быццам акрэплі.

— Паляцелі! — перамагаючы свіст ветру, крыкнуў ён.— Толькі трымайся мацней!

Ён асцярожна «вёз» Ластавачку, баючыся згубіць яе. Цяпер ён быў не адзін, і навальніца не палохала яго.

Адпачыўшы, Маладзенькая Ластавачка пырхнула з Жураўлёвай спіны:

— Дзякуй вам, дзядзечка Журавель! Цяпер я далячу да берага.

Але да берага было яшчэ няблізка. Сілы зноў пачалі пакідаць старую птушку. Рухі станавіліся ўсё больш і больш павольныя. Добра, што Ластавачка хутка вярнулася назад.

— Дзядзечка Журавель, давайце паляцім разам,— папрасіла яна.— Навальніца сціхае ўжо. Хутка будзе сонца! Будзе і бераг!

Далей яны паляцелі ўдваіх. Навальніца, нагуляўшыся, сціхла. За морам пачало ўзыходзіць сонца. Неўзабаве паказаўся бераг.

— Дзякуй вам, дзядзечка Журавель, за дапамогу!

— Дзякуй табе, Маладзенькая Ластавачка! — і, падумаўшы, дадаў: — Кожны з нас мог загінуць у навальніцу, а разам мы перамаглі ўсё!





# Шпак і ВЕРАБЕЙ

З кожным днём станавілася ўсё халадней і халадней.

Аднойчы Шпак сказаў знаёмаму Вераб'ю:

— Лячу ў цёплыя краіны. Бывай, сусед!

— А можна мне, пакуль цябе не будзе, пажыць у тваім доме? — запытаў Верабей.

— Калі ласка, жыві.

— Дзякую. Шчаслівай табе дарогі!

Шпакоўня спадабалася Вераб'ю — цёплая, утульная. «Каб Шпак не вярнуўся, дык мне яго дом застаўся б»,— часам думаў Верабей.

Доўга цягнулася зіма, нарэшце яна скончылася. Снег растаў, а Шпак усё не прылятаў. «Можа, ён застаўся жыць у тых цёплых краінах?» — радаваўся Верабей.

Але аднойчы раніцай, калі так хораша свяціла сонца, Верабей пачуў знаёмую песеньку. Ён хуценька вылецеў са шпакоўні. На бярозе сядзеў Шпак і насвістваў вясёлую песню.

— Чаму ты радуешся? — здзівіўся Верабей.

— Як чаму?! Дамоў вярнуўся.

— А там, куды ты лятаў, ні зімы, ні сцюжы, кажуць, зусім не бывае. Гэта праўда?

— Праўда.

— І ты вярнуўся?! А ўвосень зноў паляціш?

— Палячу, бо маразы прагоняць.

— Ці варта было вяртацца,— разважліва сказаў Верабей,— каб зноў мучацца, ляцець у вырай? Вось калі б я дабраўся да зямлі, дзе заўжды цёпла, дзе ўдосталь чарвякоў і мошак, дык, напэўна, ніколі не вярнуўся б сюды.



— Але ў кожнай птушкі ёсць родны край, — адказаў Шпак.— Там, дзе ты вырас, дзе выраслі твае дзеці. І кожная птушка, перамагаючы ўсе цяжкасці, вяртаецца дадому.

І Шпак пырхнуў у свой домік: трэба было папраўляць старое жытло.

— Дзіва-ак!..— усміхнуўся Верабей.

Ён, мусіць, не верыў Шпаку, таму што ніколі далёка не адлятаў ад гэтых мясцін.



# КЛЕКАТУНЧЫК

На вялікім разлапістым дубе жыла сям'я буслоў. Аднойчы пасля снедання стары Бусел сказаў:

— Сёння будзем вучыцца лятаць!

Бусліха-маці паглядзела на меншанькага, якога ўсе звалі Клекатунчыкам, паспрабавала пярэчыць:

— А можа, бацька, яшчэ рана. Няхай падрастуць дзеці.

— Не рана,— строга адказаў Бусел.— Ты, маці, заўсёды патураеш ім. А зіма скора — вось-вось трэба ў вырай збірацца.

Старэйшы сын, як і належала яму, смела рушыў да краю буслянкі. Дужымі нагамі ён адштурхнуўся і, зрабіўшы круг, апусціўся на бліжэйшы луг.

«Добры важак выйдзе з яго»,— падумаў стары Бусел.

Сястра не гэтак смела, як брат, пачала свой палёт. Але і яна старанна махала крыламі, умела трымалася ў паветры.

— Будзе лятаць! — запэўніў Бусліху-маці стары Бусел.

А малы Клекатунчык як толькі падышоў да краю буслянкі і глянуў уніз, дык адчуў, што галава закружылася, і міжволі адступіў назад.

Бацька заўважыў яго нерашучасць:

— Наперад! Ану, ляцець!

Стары Бусел падышоў ззаду і штурхнуў баязліўца.

Клекатунчык вываліўся з буслянкі і ад страху заплюшчыў вочы. Ён хутка-хутка замахаў крыламі. І раптам адчуў, што ляціць...

Калі ён ужо стаяў на купіне побач з братам і сястрою, да іх падляцеў бацька.

— Ведай, што ў нас адзіны паратунак — дужыя крылы,— сказаў ён.— І каб яны былі дужыя, не бойся лятаць...



# Зайцаў КАЖУШОК

Прыйшла ў лес зіма, а з ёю — маразы і сцюжы... Усе зайцы надзелі белыя кажушкі. Цёпла ім стала.

Толькі адзін Малады Заяц усё ў шэрым скача. Скача і дрыжыць ад холаду. Убачыў гэта Стары Заяц і прынёс яму кажушок.

— На, пераапраніся, цяплей будзе.

Зарадаваўся Малады Заяц, надзеў новы кажушок, а стары пад ядлоўцавы куст закінуў.

— Павесь навідавоку, каб потым не шукаць,— напомніў Стары Заяц, але Малады махнуў лапкай:

— Калі яшчэ тая вясна!

Ішлі дні за днямі, і не агледзеўся Малады Заяц, як вясна ў лес завітала. Усе зайцы знайшлі сваё адзенне, пераапрануліся і скачуць вясёлыя.

Адзін толькі Малады Заяц ніяк не можа ўспомніць, пад які куст свой кажушок кінуў. Горача яму ў зімовым адзенні.

Забіўся Малады Заяц пад дрэва, хацеў адпачыць у цяньку, а тут паджары, галодны пасля зімы Воўк бяжыць, зубамі ляскае.

Кінуўся Заяц наўцёкі, а Воўк кажа:

— Не ўцячэш. Белага ўсюды відаць.

Бег, бег Заяц, пакуль не стаміўся. Прысеў перадыхнуць, паглядзеў навокал, і здалася яму знаёмай гэта мясціна.

«Ці не тут я свой кажушок пакінуў? — падумаў ён.— Трэба пашукаць, пакуль Воўк не дагнаў».

Заглянуў Малады Заяц пад ядлоўцавы куст, а там — яго кажушок. Хуценька схапіў яго, апрануў і прытаіўся.

А тут і Воўк на паляну выскачыў.

— Дзе ж гэта Заяц падзеўся? Толькі што сюды бег...— і памчаўся далей.

А да Маладога Зайца падышоў Стары:

— Хай табе гэта будзе навукай на ўсё жыццё. Запамінай, дзе ўвосень кладзеш свой кажушок, тады вясной лёгка знойдзеш.

Ды той і сам ужо зразумеў гэта.





# Каму ТЭЛЕГРАМА?

У кожнага звера ёсць свае клопаты: Мядзведзь — гаспадар лесу, Ліс — яго дарадчык, Дзяцел — тэлеграфіст, а шпарканогі Заяц пошту разносіць.

Аднаго разу вяртаўся з апусцелаю торбачкай Заяц дадому, а з дрэва Дзяцел пырх да яго з просьбаю:

— Зрабі ласку, Заяц, занясі яшчэ тэлеграму.

Муляецца Заяц, з нагі на нагу пераступае і маўчыць.

Бачыць Дзяцел, што паштальёну не хочацца ісці, і яшчэ больш пачаў упрошваць:

— Занясі. Тэлеграма твайму суседу.

— Калі суседу, то давай. А што ў той тэлеграме? — пацікавіўся Заяц.

— Пачытай, у ёй няма сакрэтаў,— сказаў Дзяцел і паляцеў на свой тэлеграф.

Заяц прачытаў:

— «Разумнаму, дужаму, ветліваму зверу. Ці падрыхтаваўся ты да зімы? Старая Вавёрка».

Пастаяў Заяц, пачухаў лапкай патыліцу. Каму ж несці? У яго тры суседы, і ўсе, здаецца, добрыя.

«Занясу Лісу. Ён, кажуць, самы кемлівы, разбярэцца».

Дабег Заяц да Лісавай нары, пастукаўся.

Выйшаў Ліс, важна пацягнуўся:



— Што табе?

— Тут некаму тэлеграма...

Прачытаў Ліс тэлеграму і кажа:

— Гэта мне. Ведае старая Вавёрка, што я самы разумны ў лесе.

Зайцу не спадабалася, што Ліс гэтак сам сябе хваліць.

— Не,— адказаў ён,— калі ты самы разумны, дык і без тэлеграмы ведаеш, што зіма надыходзіць.

Не паспеў Ліс слова сказаць, а Зайца ўжо і не відаць. Ад злосці Ліс толькі цяўкнуў наўздагон.

Дабег Заяц да новага мядзведжага берлагу, пастукаўся. Выйшаў касалапы Міша, глянуў грозна на Зайца, і той без слоў зразумеў: «Чаго трэба?»

— Шаноўны Мядзведзь, тут некаму... тэлеграму... прыслала Вавёрка.



Узяў Мядзведзь, прачытаў і зaганарыўся:

— Гэта мне. Я самы дужы ў лесе!

— Не,— расхрабрыўся Заяц.— Калі ты самы дужы, дык ты ў любую хвіліну збудуеш бярлог. А гэтая тэлеграма — некаму другому...

— Як!..— кінуўся быў на яго Мядзведзь, але Зайца ўжо і след прастыў.

Дабег ён да Вожыкавай хаткі, насілу аддыхаўся: усё здавалася, што Мядзведзь гоніцца за ім. Супакоіўся крыху, пастукаў у дзверы.

Выкаціўся Вожык, убачыў Зайца і запрасіў у хату:

— Заходзь, заходзь, сусед. У лесе зараз не цёпла. А ў нас самавар кіпіць.

Зайшоў Заяц у хату, выпіў шклянку гарачага чаю, а Вожык і пытае:

— Ну, з чым да нас, сусед, завітаў?

— Тут некаму тэлеграма ад старой Вавёркі.

Прачытаў Вожыкаў сын тэлеграму ўголас.

А Заяц і кажа:

— Гэта вам.

— А чаму нам? — здзівіўся сын.

— Бо тут напісана: добраму і ветліваму зверу.

Падзякаваў Вожык Вавёрцы за памяць, а Зайцу — за турботы. Правёў паштальёна да дзвярэй і сказаў:

— А да зімы мы падрыхтаваліся ўжо.

Задаволены вяртаўся дадому Заяц: тэлеграма трапіла па адрасу.



# Чаму СОНЦА рана ўстала?

Мядзведзік Патапка соладка спаў у ложку, калі сонца, прабіўшыся праз густыя галіны, зазірнула ў акно. Ён адчуў цёплыя сонечныя промні, пацягнуўся і незадаволена буркнуў:

— Чаму так рана ўстала і мяне будзіш?

Сонца толькі ласкава ўсміхнулася ў адказ.

Мядзведзік прачнуўся. Яму нічога не заставалася, як апранацца. Неўзабаве ён у сваім сіненькім касцюмчыку выйшаў на вуліцу.

Непадалёку Вавёрка збірала грыбы.

— Што не ўспалася, суседка? — спытаў Патапка.

— Хто раней устане, той болей знойдзе,— бойка адказала Вавёрка, зразаючы крамяны баравічок.

Мядзведзік пабег далей. Насустрач Заяц з паштарскай торбачкай. Ён усюды бывае, розныя навіны ведае.

— Што новага, паштар? — пацікавіўся Патапка.

— Навін у лесе шмат, самых розных,— адказаў Заяц.— А для цябе самая цікавая, мусіць, што ў Мядзведжым завулку маліны даспелі.



— Няўжо даспелі?! — не паверыў Патапка.— Я, здаецца, учора там быў, дык ягады былі яшчэ зялёныя.

— А сёння зранку сонейка зірнула на іх з пяшчотаю, вось яны і заружавеліся,— растлумачыў паштар.

— Калі так, дык я пабег маліны збіраць! — сарваўся з месца Патапка. Усю дарогу ён паўтараў: — Хто першы забяжыць, той болей назбірае! Я першы забягу і найбольш нарву.

Патапка быў ужо каля Мядзведжага завулка, калі сустрэлася яму Пчала. Яна несла ў лапках шклянач-ку духмянага мёду.

«Значыць, не адно сонца рана ўстае! — падумалася Патапку.— І Пчала, і Заяц, і Вавёрка».

— Скажы, Пчолка,— спытаў у яе ўсё-такі Патапка,— чаму летам сонца доўга не спіць?

— У каго многа работы, той рана ўстае,— не спыняючыся, прагудзела Пчала.— А ў сонца шмат спраў зараз...



# Сарока, Воўк і ЗАЙЧАНЯТЫ

Братам зайчанятам было толькі чатыры дні. Як і ўсе малыя, яны былі бесклапотныя і шчаслівыя. Зайчаняты нават не засмуціліся, калі згубілася мама. Браты, як і раней, бегалі навыперадкі, ганяліся за матылямі, куляліся цераз галаву, гукалі. Нарабілі столькі шуму, што разбудзілі старую Сароку, якая драмала на суку.

— Бач, расшумеліся?! Цыц, малеча! — прыкрыкнула яна на зайчанят.

Але тыя так разгуляліся, што не звярталі ўвагі на Сароку.

«Калі мяне не слухаецеся, дык Воўк вас навучыць!» — вырашыла яна і паляцела шукаць Ваўка.

Шэры адпачываў пад ялінаю, схаваўшыся ў цяньку.

— Спіш, стары лянота,— пасарамаціла яго Сарока,— а недалёка зайцы гуляюць і цябе не баяцца!

— Як не баяцца?! — адразу абудзіўся Воўк і шчоўкнуў зубамі.— Я галодны. Хутчэй вядзі мяне да іх!

Сарока нізка ляцела над кустамі. Воўк бег услед. Каля паляны яна прыпынілася, папярэдзіла:

— Цішэй тут: зайцы блізка!



Шэры і стараўся ступаць паціху, але пад нагу трапіў сучок і моцна трэснуў. Рэха пакацілася па лесе. Зайчанятам здалося, што гэта стрэл. Спалохаўшыся, яны кінуліся ў розныя бакі.

Воўк спачатку пабег за адным, а затым — за другім, але братоў і след прастыў. Воўк толькі аблізнуўся і яшчэ раз шчоўкнуў зубамі.

— Няўклюда, аніводнага не злавіў! — папракнула яго Сарока.

— Выбіраў, каторы большы,— азваўся шэры.

— Праўду кажуць: за двума зайцамі пагонішся — ніводнага не зловіш! — ківала галавою Сарока.— А можа, яно і лепш: няхай малыя вучацца, як у лесе жыць...



# Зайцава ПОМСТА

Ні за што ні пра што пакрыўдзіў Мядзведзь Зайца. Так стукнуў Зайку па галаве лапай, што ў таго ажно іскры з вачэй пасыпаліся.

— За што, Міхайла Патапавіч? — застагнаў Заяц.

— Ладна, не крыўдуй,— адказаў Мядзведзь.— Я пажартаваў!

— А калі б я гэтак пажартаваў?

— А ты паспрабуй. Ха-ха! — зарагатаў Мядзведзь.— Каб так жартаваць, трэба маю сілу мець.

Прайшоў час. Мядзведзь забыўся пра гэтую размову. У лесе даспела маліна. Аднойчы на супрацьлеглым беразе рачулкі Заяц заўважыў свайго крыўдзіцеля.

— Міхайла Патапавіч, плыві сюды, нешта цікавае скажу! — гукнуў яму Заяц.

— Лепш ты плыві да мяне!

— Які з мяне плывец! Я і вады баюся.

Бачыць Заяц: прыпыніўся Міхайла Патапавіч, раздумвае. Нарэшце ён не вытрымлівае, пераплывае рачулку.



Заяц нізка апускае галаву, скрабе за вухам, быццам штосьці хоча ўспомніць.

— Прабач, Патапавіч, пакуль ты плыў, забыўся. Зусім вылецела з галавы.

Мядзведзь недаверліва глядзіць на Зайца.

— Як толькі ўспомню, адразу табе скажу,— абяцае той.

Міхайла Патапавіч нічога не гаворыць і плыве да свайго берага. Праходзіць некалькі хвілін.



Заяц зноў кліча яго:

— Успомніў, Патапавіч! Плыві — скажу!

— А ты адтуль гавары.

— Нельга. Яшчэ хто пачуе.

Мядзведзь крэкча і лезе ў ваду.

Заяц доўга маўчыць.

— Што, зноў забыўся? — грозна пытае Міхайла Патапавіч.

— Забыў, чэснае заечае, забыў. Што гэта са мною сёння!

— Галава ў цябе ці дзіравае рэшата?! — не на жарт злуе Мядзведзь.

— Даруй мне, Міхайла Патапавіч!

— Апошні раз,— абяцае Мядзведзь.— У наступны — вушы адарву! — грозіць ён і плыве на другі бераг.

— Хутчэй, Міхайла Патапавіч, плыві! — замахаў лапаю Заяц.— Каб я не забыў зноў.

— Дык што ты мне хацеў сказаць?

— На тым беразе рачулкі, бачыш, колькі маліны.

— І толькі ўсяго?

— А гэта табе хіба мала? — як бы здзіўляецца Заяц.— Спяшайся, а то хто-небудзь ягады абарве.

Мядзведзь плыве да малінніку, а Заяц весела пасмейваецца яму ўслед:

— Ты мяне лічыў зусім слабым, а я правучыў цябе, касалапага здаравяка. Прымусіў цябе плаваць сюды-туды мне на забаву!



# Як прыдумалі гульню

Ну і задзіра гэты мядзведзік Міхалік! Нікога не прапусціць, кожнага зачэпіць. Асабліва дастаецца Патапку. Толькі выйшаў ён сёння з дому, а Міхалік тут як тут:

Патап, Патап,
Аббег сорак хат.
Сорак хат, сем рэчак,
Стрыг авечак!

Крыўдна стала Патапку.

— Не Патап я пакуль, а Патапка! — запярэчыў ён.

А ў Міхаліка новая дражнілка:

Патапка, Патапка,
На камізэльцы латка,
На штоніках латка,
А нос — як аладка.

Прыбег Патапка дамоў, хутчэй да люстэрка: нос як нос!

— Што з табою, унучак? — спытаў Патап Іванавіч.

— Дзеду, чаму мне такое непрыгожае імя далі?

— У цябе цудоўнае імя! — запэўніў дзядуля.

Мядзведзік захныкаў:

— Патап, Патап, аббег сорак хат...

—... сорак хат, сем рэчак, стрыг авечак! — закончыў дзядуля.

— А ты адкуль ведаеш?

— І мяне ў дзяцінстве гэтак дражнілі,— адказаў Патап Іванавіч.— Але я зрабіў для сябе адкрыццё.

— Якое, дзеду?

— Зараз сам убачыш!..— Дзядуля дастаў аловак і на паперы вывеў вялікімі літарамі слова «ПАТАП».— Чытай!

Мядзведзік прачытаў.

— А зараз з другога боку пачытай!

Мядзведзік прачытаў і ўсклікнуў:

— Ой, як цікава, дзеду! І тут атрымліваецца «Патап».

— Вось ты і скажы пра гэта звярам, яны дражніцца перастануць,— параіў дзядуля.

Выбег Патапка з дому і закрычаў штосілы сваім сябрам:

— Якое ў мяне цудоўнае імя!

— Ведаем якое — Патап! — скрывіўся Міхалік.— Патап, Патап, аббег сорак хат...

— Не, вы толькі паглядзіце! — Патапка напісаў кійком на сцяжынцы сваё імя.



Сябры абступілі мядзведзіка.

— Чытайце! Вы — адсюль, а вы — з гэтага боку. Бачыце, аднолькава атрымліваецца!

— І ў мяне аднолькава атрымліваецца,— узрадавалася вавёрка. — Бо імя маё — Ада.

— А ў мяне хіба горшае імя! — вытркнуўся Міхалік.— Чытайце!

— Тут і праўда «Міхалік» выходзіць, а наадварот — нейкі «Кілахім». Што за слова? — здзівілася ліса Ліза.

Міхалік на хвіліну сумеўся, але знайшоўся, што адказаць:

— Гэта па-англійску «Міхалік».

— Дзі-іўна!

А зайчык Цімошка напісаў сваё імя.

— А што такое «Акшоміц»? — запыталася зноў ліса.

— Гэта па-французску «Цімошка».

— Я думала, што ўсе звяры тутэйшыя,— усміхнулася ліса Ліза.— А ў нас, аказваецца, ёсць іншаземцы.

Мядзведзік Міхалік падышоў да янота і нечакана зарагатаў:

— Як жывеш, Тоня!

— Я не Тоня, я — Антошка.

— А ты сам пачытай: гэтак — «Янот», а з другога боку —«Тоня». Выходзіць, янот Тоня.

— Я — Антошка,— заўпарціўся янот.

— «Патап» чытаецца аднолькава, «Ада» — таксама,— разважыў зайчык Цімошка.— А ў нас не выходзіць. Значыць, і хітрыць не трэба.

— Я таксама прыдумала слова, якое чытаецца аднолькава з аднаго і з другога боку,— пахвалілася бабрыха Барбара.

— Якое?

— Шалаш!

— Давайце ўсе прыдумваць такія словы,— прапанаваў Патапка.— У нас атрымаецца новая гульня.

Звяры дружна згадзіліся.

Першай падняла лапку ліса Ліза:

— Заказ.

— Добра! — пахваліў Патапка.

— І я прыдумаў,— падхапіўся Міхалік.— Зараз.

Прымоўклі звяры: далей ніяк не ўдаецца падабраць патрэбнае слова.

Раптам зверху пачуўся голас:

— Боб! Вельмі люблю боб!

Звяры ўзнялі галовы: на яліне сядзела Варона.

— Я таксама хачу з вамі гуляць — сказала яна.— Добрую гульню прыдумалі.

— Тады злятай уніз! — запрасіў Патапка.— Цікавей будзе…

Загуляліся звяры, не заўважылі, як сонца зайшло і ноч апусцілася на зямлю.



## Чаму ў ЗАЙЦА рассечаная губа?

Ведаеце, чаму ў Зайца рассечаная губа? Калі не, тады слухайце.

Было гэта даўно. На дарозе ля Заечай хаткі ляжаў вялізны камень.

Суседка Ваверка аднойчы прапанавала:

— Давай скінем камень з дарогі!

— Не твая справа! — адказаў ёй Заяц.— Каля майго дома ляжыць — значыць, не чапай.

— Але ж ён перашкаджае звярам хадзіць?

— Трэба пад ногі глядзець, а не варон лічыць.

Першая нагу збіла Ліса. Цяўкнула ад болю, а Заяц насмешліва:

— А ты, Ліска, пад ногі глядзі, калі ходзіш!

Злосна зіркнула на яго Ліса і пакульгала далей. А Заяц наўздагон:

— А яшчэ хваліцца, што самая хітрая!

Спадабаўся Зайцу занятак — сядзець на прызбе і глядзець, хто спатыкнецца аб камень.

Збіў лапу і Мядзведзь. Зароў ад злосці і болю:

— Хто мне камяні пад ногі кідае?!

Схапіў камень, каб скінуць з дарогі, а Заяц яму з прызбы:

— Нядобра, Міхайла Патапавіч, чужое забіраць.

— А хіба гэта твой камень?

— Мой.

— Прабач, не ведаў,— і паклаў камень на месца.

«Хто ж вінаваты,— думаў Заяц,— што вы як сляпыя?.. Я ж ні разу не спатыкнуўся».

Здарылася і яму спяшацца дамоў, калі зверху пачулася:

«Кар-р!» Узняў Заяц галаву, каб паглядзець, дзе Варона, спатыкнуўся аб камень і рассек губу.

Вавёрка выглянула з дупла, пацвеліла:

— Пад ногі трэба, сусед, глядзець, а не варон лічыць!

Даўно прыбралі звяры той камень з дарогі, а Заяц і дагэтуль бегае з рассечанай губою.



# Тры апельсіны

Слон Адзік працаваў у цырку. Ён ахвотна вазіў на спіне зверанят, і яны выступалі, як сапраўдныя акрабаты. Але найбольш Адзік любіў жангліраваць.

Набліжаўся дзень яго нараджэння, і Адзік атрымаў скрыначку ад знаёмай малпачкі Зозі. У скрыначцы былі віншавальная паштоўка і тры апельсіны. Вялікія, як шарыкі, і залацістыя, як сонца.

Адзіка зноў паклікалі на арэну. Жангліруючы мячыкамі, слон бачыў: хлопчыкі і дзяўчынкі радаваліся, калі мяч узлятаў высока, і засмучаліся, калі падаў долу. Але ён зноў падхопліваў мячык і падкідваў яшчэ вышэй.

Толькі адзін хлопчык у першым радзе за ўвесь час ні разу не ўсміхнуўся. Адзіку стала шкада яго. Пакуль дзеці пляскалі ў далоні, ён збегаў за сцэну і прынёс самы вялікі апельсін.

Слон падышоў да краю арэны і кінуў апельсін няўсмешліваму хлопчыку.

Той, вядома, не чакаў падарунка, крыху здзівіўся, але апельсін злавіў.

— Гэта мне? — ціха спытаў хлопчык.

— Табе! — схіліў голаў у паклоне Адзік.

І хлопчык раптам засмяяўся...

А вечарам прыйшла прыбіральшчыца Вера. На вачах у яе былі слёзы.

— Што здарылася? — спытаў Адзік.

— Няшчасце ў мяне,— прызналася цётка Вера.— Мая дачушка, Волечка, мусіць, захварэла. Капрызіць, нічога не есць.

Слон успомніў, як развесяліў таго адзінага сумнага ў зале хлопчыка, і сказаў:

— Можа, я дапамагу? — І даў апельсін.

На другі дзень цётка Вера дзякавала яму:

— Мая Волечка так узрадавалася падарунку, што забылася пра ўсё — болей не капрызіць і з'ела поўную міску маннай кашы. Дзякуй табе, Адзік!

Прыйшоў дзень нараджэння. Звяры, з якімі слон штодзень выступаў на сцэне, паднеслі яму вялікі букет ружаў.

— А ў мяне толькі адзін апельсін...— разгубіўся было Адзік.

— Вельмі добра! — усміхнуўся мядзведзік Міша.— Яго можна падзяліць на долькі, і ўсім хопіць.

Звяры радасна засмяяліся. Радаваўся і Адзік, што ў яго такія добрыя сябры.



## ЗМЕСТ



